13 красавіка 1999 г. аўторак

# НАВІНЫ

№40 (571) кошт свабодны




# Апаленая вера

Міхась КАРПОВІЧ

У ноч з нядзелі на панядзелак у Вялікдзень у Мінску была падпаленая сінагога, якая знаходзіцца на вуліцы Даўмана.

Як паведаміў нам прэзідэнт Іудзейскага рэлігійнага аб'яднання Юрый Дорн, недзе а палове дванаццатай ночы вартаўнік сінагогі заўважыў вялікія клубы дыму, што ішлі ад уваходных дзвярэй сінагогі. Ён паспрабаваў выйсці, але яму гэта не ўдалася, бо полымя было занадта вялікім. Вартаўнік выклікаў пажарных, і хутка пажар пагасілі.

У выніку пажару ўшчэнт згарэлі дзверы, дыванове пакрыццё на ўваходзе і шыльда. Цяпер супрацоўнікі сінагогі падлічваюць страты. Па словах Юрыя Дорна, урон складзе каля тысячы долараў.

Мяркуецца, што сінагога была падпаленая. Падпальшчыкі пакінулі на сцяне сінагогі надпіс жоўтай аэразольнай фарбай «Бей жидов — спасай Россию». На месцы здарэння выкліканая міліцыя знайшла балончык з-пад фарбы і забрала яго — як рэчавы доказ. Супрацоўнікі міліцыі таксама зафарбавалі антысеміцкі надпіс.

Юрый Дорн заявіў нам, што яму вельмі хацелася б, каб гэта быў толькі хуліганскі ўчынак, але ж габрэйскія пагромы ў фашысцкай Германіі таксама пачыналіся з падпалу сінагогаў. ■


Фота IREX/ProMedia

Давід Глехаў, вартаўнік Мінскай сінагогі на вул.Даўмана, паказвае спаленыя дзверы.

# Салдацкая трагедыя

## У правінцыі тэрарыст забіў двух чалавек, а потым застрэліўся сам

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У Лунінцы (Брэсцкая вобласць) на праваслаўны Вялікдзень адбылася сапраўдная трагедыя: салдат тэрміновай службы адкрыў у цэнтры горада пальбу з аўтамата, а потым застрэліўся сам.

Як паведаміў нам начальнік прэс-цэнтра Брэсцкага ўпраўлення ўнутраных справаў Віктар Васілеўскі, каля 14 гадзінаў у нядзелю радавы салдат тэрміновай службы 19-гадовы Ігар Андрэеў захапіў аўтамат АК-74 і два ражкі патронаў. З аўтаматам у руках ён накіраваўся да свайго сябра-аднагодка Станіслава Бандарчука, які ў той час стаяў на баявым пасту (абодва яны прызываліся ў армію з Лунінца ў чэрвені мінулага годоа. Відаць, Бандарчук не пагадзіўся скласці кампанію свайму сябру, таму І.Андрэеў застрэліў яго.

Труп загінуўшага салдата быў знойдзены хутка. Тым часам Андрэеў выраšыў патрапіць у Лунінец. 19-гадовы тэрарыст выйшаў на шашу і паспрабаваў спыняць машыны. Першая машына не спынілася, і ён даў аўтаматную чаргу наўздагон ёй. Другі раз І.Андрэеву пашанцавала больш. Пагражаючы аўтаматам, ён спыніў «Жыгулі», дзе ехала шмат людзей, высадзіў іх і паехаў у горад.

У цэнтры горада І.Андрэеў не справіўся з кіраваннем, машына вылецела на сустрэчную паласу і ўрэзалася ў высокі бардзюр. Вайсковец выскачыў з машыны і адкрыў хаатычную пальбу па людзях. У выніку 26-гадовы грузчык Уладзімір Кузбердзін быў цяжка параненыі па дарозе ў шпіталь памёр.

Як паведаміў нам начальнік Лунінецкага РАУС падпалкоўнік Леанід Нагуманаў, тэрарыст быў блакіраваны двума нарадамі міліцыі. Тым не менш, яны не адкрывалі агню па ім, бо вакол сабралася шмат развакаў, якія маглі пацярпець падчас перастрэлкі.

«Тэрарыст», хутчэй за ўсё, пабачыў бесперспектыўнасць свайго становішча і скончыў жыццё самагубствам, стрэліўшы сабе ў галаву. Міліцыя цяпер высвятляе, што менавіта падштурхнула салдата на такія жудасныя ўчынкі. ■

ПАРТЫІ

# Лужкоўскае «Отечество» ў чужой айчыне

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

Уплывовыя палітычныя сілы Расіі пачалі ствараць свае арганізацыйныя структуры ў Беларусі. У пятніцу дзеля падтрымкі сваіх калегаў з беларускага саюза «Отечество» ў Мінск прыязджаў саветнік маскоўскага мэра Юрыя Лужкова Канстанцін Затулін. Ён удзельнічаў у паседжанні т.зв. цэнтральнага камітэта беларускай філіі гэтай лужкоўскай партыі, а таксама сустрэўся з віцэ-прэм'ерам Замяталіным, міністрам замежных справаў Латыпавым і мінскім мэрам Ярмошыным. Цікава, што беларускае «Отечество» (дарэчы, яшчэ не зарэгістраванае ў мінюсце) стала фактычна першай сур'ёзнай філіяй партыі мэра Масквы. Праўда, раней у нашай краіне па расійскіх аналагах былі створаныя ЛДПБ і беларускае «Яблоко». Але партыя сп.Гайдукевіча хутка выдзелілася ў самастойную палітычную сілу, і кантакты з Жырыноўскім і кампаніяй былі амаль спыненыя, а філія «Яблока» ў Беларусі без сур'ёзнай, у першую чаргу фінансавай, падтрымкі з Масквы ўяўляе сабой аморфны, малалікі і абсалютна не ўплывовы палітклуб. Стварэнне ж беларускага «Отечества» — выпадак якасна іншага ўзроўню. Партыя Лужкова з'яўляецца цяпер адной з самых уплывовых палітычных сілаў Расіі, якая прэтэндуе на вялікую частку дэпутацкіх месцаў у Думе, а яе лідэр не хавае амбіцыяў заняць пасля Ельцына прэзідэнцкае крэсла. «Отечество» валодае не малым фінансавым капіталам і можа без асаблівых цяжкасцяў ствараць пятыя калоны па-за межамі Расіі. Так, напрыклад, у канцы мінулага года пры дапамозе Лужкова ў Мінску пачала выдавацца стотысячным накладам газета «Метро», якую мінчанам раздаюць бясплатна. Не выключана, што цяпер гэтае выданне стане афіцыйным рупарам мінскіх паплечнікаў Лужкова. Падобна на тое, што партыя маскоўскага мэра хоча мець у Беларусі моцную філію, таму для знаёмства з сітуацыяй на месцы і быў пасланы адзін з кіраўнікоў «Отечества» дырэктар інстытута краінаў СНД Канстанцін Затулін. Трэба ж ведаць, з кім маеш справу і каму даваць грошы, а тое, што беларускія прыхільнікі Лужкова будуць фінансавацца з Масквы, можна нават не сумнявацца. Затулін заявіў, што «беларусаў і рускіх аб'ядноўвае агульная айчына, а саюз «Отечество» з'яўляецца прынцыповым прыхільнікам Саюза Беларусі і Расіі, нават стварэння адзінай саюзнай дзяржавы». Па словах маскоўскага візіцёра, ён застаўся цалкам задаволены сваімі беларускімі калегамі, якія збіраюцца ўжо ў траўні правесці свой установчы з'езд. Дарэчы, удзельнічаць у ім збіраецца асабіста Юрый Лужкоў. Пакуль невядома, як ставяцца да стварэння філіі лужкоўскай партыі афіцыйныя беларускія ўлады. І справа нават не ў тым, што беларускае заканадаўства забараняе ствараць на нашай тэрыторыі аддзяленні замежных палітычных партыяў. Проста ў Беларусі ёсць толькі адзін чалавек, якому могуць належаць ініцыятывы па інтэграцыі і стварэнні розных беларуска-расійскіх палітычных структураў. Дарэчы, нядаўна гэты чалавек заявіў, што не дазволіць выкарыстоўваць Беларусь у якасці разменнай манеты ў палітычнай гульні маскоўскіх элітаў. Праўда, ён неяк называў маскоўскага мэра сваім асабістым сябрам. Але ці настолькі глыбокае гэтае сяброўства, каб дазволіць Лужкову ствараць свае палітычныя структуры на чужой тэрыторыі, якія адназначна будуць працаваць не на беларускага гаспадара? ■

## Гарачая лінія

### Нафта разлілася

**300 тонаў нафты разлілося па зямлі ў выніку буйной аварыі, што адбылася пад Рэчыцай у суботу.**

Як нам паведамілі ў штабе грамадзянскай абароны, у Рэчыцкім раёне (Гомельская вобл.) падчас рамонту нафтавай свідравіны, якая знаходзіцца ў 8 кіламетрах ад вёскі Асташковічы, адбыўся магутны выкід нафты і газу. Свідравіна належыць кампаніі «Беларуснафта». Па стане на 10 гадзінаў раніцы ўчора, на паверхню вылілася больш за 300 тонаў нафты, кожную гадзіну выкідваецца каля 120 кубаметраў прыроднага газу. Учора раніцай на месца катастрофы выехаў міністр па надзвычайных сітуацыях Валерый Астапаў. Паводле слоў намесніка генеральнага дырэктара «Беларуснафты» Фёдара Міхайлоўскага, спецыялістам удалося прадухіліць пагрозу забруджвання навакольнага асяроддзя.

*Расціслаў ПЕРМЯКОЎ*

### Антончыка будуць судзіць

Сёння ў Оршы адбудзецца суд над кіраўніком стачкама Свабоднага прафсаюза Сяргеем Антончыкам. Тыдзень таму ён быў затрыманы і дастаўлены ў памяшканне гарадскога суда, дзе суддзя Дзямешчанка прад'явіла яму абвінавачванні па артыкуле 167 адміністратыўнага кодэкса за арганізацыю несанкцыяванага мітынгу 4 сакавіка каля прахадной АТ «Орша». У судзе Антончык не пагадзіўся з абвінавачваннямі, запатрабаваў адвоката і допыту сведкаў падзеяў. У выніку суд быў перанесены на 13 сакавіка, а Антончык адпушчаны на свабоду.

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

### У Балгарыю – з візай

З 1 лістапада грамадзяне Беларусі змогуць наведаць Балгарыю толькі пры наяўнасці ўязной візы ў гэтую краіну. Аналагічныя захады будуць распаўсюджвацца і на балгарскіх грамадзянаў. Да лістапада будуць дзейнічаць старыя правілы ўезду.

## Прогноз погоды




В среду на территории Беларуси ожидается облачная с прояснениями погода. В Брестской, Гродненской и Витебской областях – местами кратковременные дожди. В Гомельской, Могилевской и Минской областях – преимущественно без осадков. Ветер юго-восточный, 6-11 м/сек, порывами до 12-14 м/сек. **Неблагоприятные дни для людей, чье состояние зависит от погоды, – 14, 16, 19, 25, 27.**




## Навука спусташэння

На плошчы райцэнтра Дзятлава стаіць касцёл Успення Багародзіцы, пабудаваны 350 гадоў назад. Зараз мала хто помніць, што гэты помнік эпохі барока меў мураваную агароджу з чатырма вежамі-капліцамі па кутах і прыгожую браму. У 1963 годзе па плане, распрацаваным ў райкаме партыі, ліпеньскай ноччу а чацвёртай гадзіне касцёльны двор заняў аддзел цесляроў з падрыхтаванымі драўлянымі шчытамі, а з прылеглых вуліц агароджу атакавалі надзейныя бульдазерысты. Калі абуджаныя дзятлаўскія вернікі прыбеглі да сваёй святыні, палова агароджы і дзве каплічкі ўжо ляжалі ў руінах. Праз некалькі гадоў рэшткі муараванай сцяны разбурылі дашчэнту, і сёння касцёл нібы распрануты сіраццё пасярод няўтульнай плошчы. Зразумела, ніводзін удзельнік варварскай акцыі не быў нават аштрафаваны.

У гісторыі беларускага ўрадавага вандалізму пазначаны выбух, які ў 1961 годзе знішчыў унікальны помнік у Віцебску — царкву Звеставання, якая ўпрыгожвала горад з XII стагоддзя. Дзікунства выклікала шырокі пратэст, аднак да адказнасці нікога не прыцягнулі. Ніводная асоба не пацярпела таксама за злачынны знос Койданаўскага збору, забудовы раёна Нямігі ў Мінску, гродзенскай фары Вітаўта, пінскага калегіума, здзекліую перабудову мінскага калегіума, перанос дома-музея Багдановіча ў Мінску з вуліцы Талстога на месца былой зваллкі да інстытута культуры. Ну і гэтак бясконца.

Няма ніводнага абласнога і раённага горада, які не меў бы на сабе адбітку молата і сярпа нашых уладарных вандалаў. Усюды натрапіш на пустку, дзе яшчэ нядаўна была аздоба, а зараз месца для журбы.

Не лепш і сёння. Старая забудова гарадскіх цэнтраў пераходзіць ва ўласнасць маладахаваных гаспадароў, якія перараблаваюць фасады, інтэр'еры, надбудоўваюць, асучасніваюць, паляпшаюць на свой еўрагуст. Пусты рэспубліканскі бюджэт вызводзіць з-пад магчымасцяў аховы рэшткі архітэктурных і гістарычных помнікаў. Нягледзячы на абяцаную вернасць еўрапейскім і сусветным Хартыям аховы і зберажэння. Спецыялісты, якія збіраюцца на сходы, канферэнцыі, сімпозіумы ды іншыя інтэлігенцкія мерапрыемствы, жаляцца адзін аднаму і «падымаюць пытанні». Гэтыя «паднятыя пытанні» пад непрыхільным позіркам уладаў звычна валяцца ў пыл забыцця, наступнае пакаленне інтэлігенцыі зноў іх «падымае», і гэтая драма цягнецца дзесяцігоддзямі з адвачнай перамогай дзікунства, глупства і старанна выхаванай абыякавасці.

Яны перамагаюць і будуць перамагаць, бо за ўвесь пасляваенны час не было заведзена ніводнай крымінальнай справы па шматлікіх фактах разбурэння помнікаў, парушэння ахоўных зонаў, і да т. п.

Адзіны надзвычайны выпадак, калі міліцыя і пракуратура выказалі энтузіязм у пошуку і пакаранні вінаватых, злучаны са знікненнем у Віцебску бюста Суворава. Адразу было высунута абвінавачванне, вялося нейкае следства, па палітычных матывах невінаватага чалавека паўгода пратрымалі ў турме.

Такія прыярытэты.

## Фотафакт




На рагу вуліцы Казлова і праспекта Скарыны «Грамадзянскі Форум» пад дэвізам «Студэнтам — дастойную стыпендыю» раздаваў навучэнцам беларускіх ВНУ поліэтыленавыя пакеты з «другім хлебам». Усяго па кілаграму бульбы атрымала каля ста студэнтаў. Арганізатар пікета Аляксей Букчын паведаміў, што акцыі па раздачы прадуктаў харчавання будуць працягвацца і ў будучым, а асартымент прадуктаў значна пашырыцца. Студэнт, рыхтуйся да халявы! ■

## Цитата номера

*«Мы не хотим изолировать Беларусь. Не хотим также, чтобы усиливалась самоизоляция этой страны. Решение, однако, находится в руках Минска».*

*Бронислав ГЕРЕМЕК, министр иностранных дел Польши*

# Лётчыкаў «бамбяць»

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Супярэчлівыя звесткі атрымліваюць НАВІНЫ пра канфлікт на баранавіцкай авіябазе. Нагадаем, у мінулым нумары мы паведамілі пра страйк лётчыкаў дзвюх эскадрыллаў, якія не падымаюцца ў паветра, пратэстуючы супраць нізкіх заробкаў, адсутнасці жылля і павелічэння тэрміну выхаду на пенсію. Аб гэтым нам расказаў чалавек, які служыць на авіябазе. Аднак, прэс-служба міністэрства абароны звесткі з Баранавічаў не пацвердзіла.

У мінулую пятніцу нашая «крыніца» зноў выйшла на сувязь. Згодна з апошняй інфармацыяй, арганізатараў страйку зараз выяўляе спецаддзел часткі. Таксама, быццам бы, вайсковае кіраўніцтва прапанавала ў якасці першай меры рэагавання на страйк зняць з пасады камандзіра авіябазы за «неадпаведнасць займаемай пасадзе», але лётчыкі заступіліся за свайго «бацьку» і прыгразілі, што тады сыдуць усе. На гэтым, маўляў, канфлікт сцішыўся.

Прэс-служба мінабароны гэтую інфармацыю таксама не пацвердзіла, аднак кіраўнік службы Леанід Прышчэпа прызнаў, што на мінулым тыдні міністр Аляксандр Чумакоў праводзіў спецыяльную нараду з камандзірамі лётных частак, на якой «абмяркоўваліся розныя праблемы лётчыкаў». ■

# Будзем Віннікаву шукаць?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Пакуль не далі выніку пошукі былой старшыні Нацбанка Тамары Віннікавай, якая, згодна з афіцыйнай версіяй, збегла з-пад хатняга арышту ў ноч на 8 красавіка. Прэс-служба пракуратуры краіны сцвярджае, што з боку праваахоўных органаў «робіцца ўсё магчымае», каб злавіць уцякачку, але пакуль «інфармацыі пра затрыманне няма». Кіраўнік прэс-службы пракуратуры Аляксей Таранаў пацвердзіў, што па факце знікнення Віннікавай узбуджаная крымінальная справа, і зараз следчыя разбіраюцца з тымі, хто яе ахоўваў. На пытанне, ці затрыманыя гэтыя ахоўнікі, Таранаў не адказаў. Між тым, сродкі масавай інфармацыі ўжо звярнулі ўвагу на тое, што Віннікава адшукваецца неяк вельмі неактыўна. Расійская тэлекампанія НТВ, у прыватнасці, паказала сюжэт, зняты на кантрольным пункце ДАІ на выездзе з Мінска. Даішнікі развялі рукамі, калі журналісты папрасілі ў іх фотапартрэт высокапастаўленай уцякачкі. Дагэтуль, па звестках, не маюць здымкаў Віннікавай і беларускія памежнікі. Відаць, слаўное начальства ўпэўненае, што Тамару Віннікаву кожны чалавек у форме ведае ў твар. Прэс-службы памежных войскаў і міністэрства ўнутраных справаў гэтыя назіранні журналістаў каментаваць адмовіліся. ■

# Пожар в польском поселке

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

Во время праздничных дней, приходящихся на католическую Пасху, в под Варшавой поселке Пясечно сгорел двухэтажный барак, в котором проживали белорусские рабочие. Обычно в собранном из контейнеров бараке проживало около 100 белорусов, работающих на местной стройке. В связи с праздниками их осталось только 30, остальные выехали домой.

Возгорание произошло в одном из пустых помещений. Пожарники считают, что причиной пожара мог стать, например, не выключенный обогреватель или короткое замыкание в электропроводке. Все здание было охвачено огнем, но серьезных жертв среди находившихся в нем людей нет. Обошлось синяками – спасая документы и деньги, некоторые рабочие вынуждены были прыгать со второго этажа. Полиция пообещала, что проверит, все ли строители из Беларуси имеют соответсвующие разрешения на работу в Польше. ■

# Будзе ўстаноўлены помнік Адаму Міцкевічу

**БелаПАН**

У сталічным скверы, які прылягае да вуліцаў Няміга, Гарадскі Вал і Валадарскага будзе ўстаноўлены помнік Адаму Міцкевічу. Вясной 1998 года кіраўніцтва Саюза палякаў Беларусі падарыла Мінску невялікі бюст паэта, які меркавалася ўстанавіць у адным са сквераў сталіцы. Аднак міністэрства культуры вырашыла зрабіць свой праект. Скульптары Аляксандр Фінскі і Андрэй Заспіцкі распрацавалі канчатковы варыянт помніка. Паэта у роздуме сядзіць, абапёршыся на ажурную агароджу. На думку Аляксандра Фінскага, адкрыццё помніка А.Міцкевічу можа адбыцца ўжо сёлета восенню. ■



## Молодежь пишет президенту

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

Молодежная организация Объединенной гражданской партии «Гражданский форум» своеобразным способом предложила властям задуматься о материальном положении белорусского студенчества. Студентам раздаются открытки, в которых сформулировано условие задачи. В условии дается средняя стипендия белорусского студента (1, 2 млн. рублей) и цена килограмма картофеля (45 тыс. рублей). «Если каждый день студент будет есть только по килограмму картофеля, то денег хватит на 26 дней». Вопрос задачи: «Какой из этого следует вывод?» Открытки со своими выводами, т.е.вариантами решения задачи, студенты отправляют по столичному адресу «К.Маркса, 38» на имя Лукашенко А.Г. ■

## «Чаўнакоў» на калінінградскай мытні чакае новы парадак

**Віка ТУРАВА**

Калінінградскае мытнае ўпраўленне прыгатавала падарунак «чаўнакам», якія перавозяць невялікія партыі тавараў у рэйсавых міжнародных аўтобусах з Беларусі, Літвы і Польшчы. Новы парадак мытнага афармлення ўводзіцца з 15 красавіка. Працэдура афармлення грузаў «чаўнакоў» значна ўскладніцца. Яна будзе больш працяглай і дарагой. У бліжэйшым будучым «чаўнакам» прыйдзецца размяшчаць тавары на складах часовага захавання, афармляць мытную дэкларацыю, кошт якой ад 20 долараў і вышэй, грузавую мытную дэкларацыю, за якую прыйдзецца плаціць ад 30 долараў і вышэй. Акрамя гэтага, «чаўнакам» прыйдзецца сертыфікаваць тавары ў Калінінградзе, атрымліваць ліцэнзію на іх увоз. За тавар, кошт якога вышэй 100 EURO, прыйдзецца плаціць яшчэ столькі ж. Калінінградская мытня гатовая да гераічнага пераадолення цяжкасцяў. Там чакаюць, што на мяжы могуць узнікнуць рознага роду канфлікты з-за новай працэдуры афармлення тавараў, але іншага шляху ўліку і ўпарадкавання звозу імпартных тавараў «чаўнакамі» ў КМУ не бачаць. ■

## Улады баяцца бунту працоўных

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Мінгарвыканкам не дазволіў Свабоднаму прафсаюзу беларускаму правесці 15 красавіка шэсце працоўных і мітынг на Кастрычніцкай плошчы. У адмове, якую кіраўніцтва прафсаюза атрымала напярэдадні Вялікадня, нават не растлумачаная прычына забароны ў правядзенні шэсця, чым груба парушаны артыкул 7 Закона аб правядзенні масавых акцыяў. Мітынг жа дазволілі правесці толькі позним вечарам на плошчы Парыжскай Камуны. Правядзенне інфармацыйных пікетаў улады загадалі перанесці ад прахадных буйнейшых заводаў у іншыя месцы. Намеснік старшыні СПБ Ірына Жыхар паведаміла, што ў выніку гэтых развагаў прафсаюз адмовіўся ад правядзення акцыі 15 красавіка, адкладаўшы яе на больш позні тэрмін. Кіраўніцтва прафсаюза бачыць сапраўдную прычыну адмовы ў баязі ўладаў, што з гэтага пачнецца бунт працоўных, узровень жыцця якіх у апошнія месяцы значна знізіўся. ■

## Белорусские врачи собрались в Югославию

**Наталья РАДИНА**

В небольшом райцентре Сенно на Витебщине прошла акция протеста против войны в Югославии. Ее инициаторами стали врачи Сенненского территориального медицинского объединения. Во главе с главным врачом медицинского объединения Олегом Уселенком они отправили телеграмму лично Биллу Клинтону с конструктивными предложениями прекратить агрессию НАТО в Косово. Кроме того, они заявили о себе и Слободану Милошевичу, отправив и ему послание. Сенненские врачи высказались в поддержку «братского сербского народа» и...предложили свою профессиональную помощь югославам. Так что, возможно, жители города Сенно в скором времени могут лишиться медицинской помощи. ■

## «Наша Ніва»

Васіль Быкаў публікуе ў «Нашай Ніве» свой новы трыпціх «Байкі жыцця», створаны ў Хельсінкі. Ён пачынаецца з навелы «Страх», у наступных нумарах выйдуць «Смех» і «Жах», у якіх за прыдуманымі падзеямі і персанажамі ўдумлівы чытач убачыць сваё ўласнае жыццё, сваю краіну і яе правіцеляў.

Тэмаю нумара сталі падзеі ў Косаве і Югаславіі. Друкуюцца жудасныя сведчанні вынішчэння албанцаў сербскімі бандамі і інтэрв'ю з кіраўніком Арміі вызвалення Косава. Большасць аўтараў газеты падтрымліваюць актыўную дактрыну NATO і крытыкуюць афіцыйную беларускую інтэлігенцыю, што ў лепшых традыцыях «барацьбы за мір» кінулася кляйміць «чорныя натаўскія ігры».

З Велікодным пасланнем звярнецца апостальскі візітатар для беларусаў замежжа а.Аляксандр Надсан, з пастырскім словам на Тамашову нядзелю — а.Андрэй Абламейка, а «Вострая брама» шукае адказ на пытанне, ці сапраўды беларусы — нерэлігійная нацыя. ■

ВЕРСИИ

# Бегущая по лезвию бритвы

Николай ХАЛЕЗИН

**8 апреля, во время похорон Геннадия Карпенко, силовые структуры распространили сенсационное известие: из-под домашнего ареста сбежала Тамара Винникова. Это происшествие выглядело настолько загадочным и невероятным, что тут же обросло огромным количеством слухов. Но если отбросить самые невероятные домыслы, то становится очевидным, что существует лишь три версии таинственного исчезновения опальной банкирши.**

## Версия 1
### Ее звали Никита

Первую версию события выдвинули белорусские спецслужбы, заявив, что **Тамара Винникова скрылась от следствия, покинув вечером свою квартиру на улице Одинцова**.

Заявление это прозвучало мило и наивно, и у несведущего человека могло создаться впечатление, что Винникова жила в гордом одиночестве в своей тихой квартире, а потом собрала вещички и уехала в неизвестном направлении. Но ведь в ее «тихой квартире» дежурили круглосуточно, сменяя друг друга, три офицера спецслужб, обеспечивая непредусмотренный Уголовным кодексом домашний арест.

В этой версии вопросов гораздо больше, чем ответов на них. Например: как могла женщина в возрасте, к тому же испытывающая проблемы со здоровьем, скрыться от бравых офицеров спецслужб? Почему накануне исчезновения к Винниковой допустили не только покойного Геннадия Дмитриевича Карпенко, но и журналиста Александра Федуту? Почему 7 и 8 апреля никто из автолюбителей не заметил в городе увеличение количества сотрудников милиции, обеспечивающих план «Перехват»?

По нашим данным, Тамара Дмитриевна 7 апреля вечером посетила квартиру Карпенко, где пробыла 10-15 минут. Она возложила цветы к гробу и простилась с Геннадием Дмитриевичем. Только утром в квартиру покойного зашел милиционер в форме и поинтересовался, нет ли в помещении Винниковой. Тут возникает еще один вопрос: почему Винникова без охраны перемещалась по городу, хотя еще сутки назад ее даже не подпускали к телефону без разрешения охраны? Часть ответов на поставленные вопросы можно найти, если допустить развитие событий по второй версии.

## Версия 2
### Пропавшая без вести

К этой версии склоняются многие представители белорусской политической элиты — **Тамары Винниковой больше нет в живых**.

На нее уже успела намекнуть адвокат Людмила Ульяшина в своем комментарии агентству БелаПАН, где она сообщила, что не исключает «самого страшного». Правда, она не наполнила эти слова конкретным содержанием. Мы же попробуем отследить эту версию.

Тамара Винникова почти полтора года находилась под так называемым домашним арестом. Такая форма контроля за банкиршей в принципе удовлетворяла власти, так как за все это время никакой утечки информации от Винниковой не произошло. В то же время экс-председатель Нацбанка наверняка знала о расходовании бюджетных средств и, возможно, о формировании и перемещении денег во внебюджетных фондах. Также для некоторых представителей властных структур была небезопасна информация о деятельности «Беларусбанка» в период, когда им руководила Тамара Винникова до перехода в Нацбанк.

Однако домашний арест не мог длиться вечно, и рано или поздно она должна была предстать перед судом. Суд, по версии адвокатов Винниковой, мог доказать полную несостоятельность обвинения, в котором не осталось ничего, кро-



ме полученного в подарок сервиза Zepter. Поэтому спецслужбы могли пойти на «самое страшное», считая, что таким способом могут раз и навсегда решить проблему с экс-главой Нацбанка.

Однако такая версия грешит своими минусами. И главный из них — реакция на подобное развитие событий родственников Тамары Дмитриевны. Родня, которая не получила никакого «знака» от сбежавшей Винниковой, начинает нервничать. Представьте себе, что после исчезновения прошло несколько недель, а от беглянки никакой весточки. Тут-то и начинаются самые неприятные для властей события. Сначала местные СМИ, правозащитники, а затем и международная общественность начинают делать заявления по поводу «исчезновения» в Беларуси людей. А спустя еще какое-то время к власти приклеивается образ не просто борцов с оппозицией, а **убийц**. Это настолько негативно скажется на имидже главы государства, что принесет гораздо больше вреда, чем пользы от такого способа устранения банкирши. Другой вариант — если со стороны Винниковой звучали какие-либо шантажирующие власти заявления. Тогда, как говорится, все средства хороши.

## Версия 3
### Подсадная утка

Третья версия более реальна. Смысл ее таков: **Тамаре Винниковой помогли сбежать белорусские спецслужбы, приставив к ней своего человека либо осуществляя контроль извне.** При всей кажущейся сложности этой версии, в ней есть конкретные выгоды для спецслужб.

Допустим следующее: некий человек, которого давно знала Винникова и который добросовестно работает на спецслужбы, предлагает ей реальный план побега. Она чувствует себя утомленной как тюрьмой, в которой провела без малого год, так и постоянным присутствием вооруженной охраны в собственной квартире. К тому же Винниковой необходима операция, проведение которой невозможно в нынешних условиях. Будучи уверенной в том, что ее в покое не оставят, а ситуация со здоровьем может привести к летальному исходу, опальная банкирша могла согласиться даже на самый авантюрный план побега. Такая операция называется «разработка в темную».

Что получают при таком развитии событий те, кто организовывает подобный проект? Во-первых, гарантированное возвращение беглянки в тюрьму в случае необходимости. Во-вторых доступ к информации и связям Винниковой как в Беларуси, так и за ее пределами. И в-третьих, практическую отмену такой меры пресечения, как «подписка о невыезде» для Михаила Чигиря и других политзаключенных.

Если допустить, что подобная версия имеет место, то станет понятно, почему следователь, ведущий дело Винниковой, так уверенно заявил: «она будет найдена и привлечена к ответственности». Хотя в практике силовых структур как правило используются более осторожные формулировки: «мы приложим все усилия...» или «мы делаем все возможное...».

У этой версии есть и другой вариант — сговор. Власти разрешили Винниковой выехать за границу и сделать операцию, зная, что если случится страшное, то ее смерть на родине ляжет тяжким грузом на плечи президента, с именем которого связывают арест банкирши. В этом случае мог присутствовать и элемент шантажа — если Винникова не согласится уехать и сделать операцию, а впоследствии вернуться под арест, то с ее минскими родственниками что-нибудь случится.

Какая бы из этих версий ни оказалась правдивой, сегодня можно с уверенностью сказать: борьба президента с теми, кто не устраивает его по статусу или политическим взглядам, перешла в иную плоскость. Он стал более решителен в своей ненависти к оппонентам. Возможно, власти взяли на вооружение не только скрытые и завуалированные, но и самые радикальные формы борьбы с неугодными. ■

# Беларусаў не запрасілі

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**У сераду ў Вільні адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выставы адной карціны — славутай панарамы Я.Матэйкі «Бітва пад Грунвальдам», у цэнтры якой намаляваны Вітаўт — гродзенскі князь і вялікі князь ВКЛ. Адкрываць выставу будуць супольна прэзідэнты дзвюх краінаў — А.Квасьнеўскі і В.Адамкус.**

Гонар Нацыянальнага музея ў Варшаве — палатно Матэйкі раней выстаўлялася ў Маскве, у былой крыжацкай сталіцы — Мальборку, цяпер — у Вільні. Таму літоўскія і польскія mass media пішуць аб вялікім энтузіязме і патрыятычным натхненні літоўцаў. Увесь час нагадваецца, што пад Грунвальдам супольна перамаглі палякі і літоўцы. Пра беларусаў традыцыйна не ўспамінаецца, хаця 23 харугвы з усёй Беларусі сталі насмерць на грунвальдскім полі. Што засведчана польскім храністам Янам Длугашам і беларуска-літоўскімі летапісамі. Зразумела, што і ў Польшчы, і ў Летуве пра гэта ведаюць. Тым не менш Беларусь не запрасілі.

Вінаватыя самі мы. Чатыры гады таму малады прэзідэнт наведаў з афіцыйным візітам Вільню. Сустракала яго ганаровая варта, лунаў наш бел-чырвона-белы дзяржаўны сцяг, і сам Лукашэнка нечакана прачытаў прамову на беларускай мове. Усё было вельмі ўрачыста і прыгожа. Адно прэзідэнт РБ з уласнай ініцыятывы пакаяўся Бразаўскасу, што, маўляў, «беларусы забралі ў літоўцаў іхні герб». І адразу пасля гэтага адбыўся ганебны рэферэндум. Чаго ж літоўцы і палякі будуць узгадваць пра нас у сувязі з Грунвальдам, калі вярхоўная ўлада Беларусі адмаўляецца шанаваць грунвальдскія сімвалы беларусаў.

У гістарычнай энцыклапедыі можна прачытаць, што ва ўрачыстым святкаванні 480-ых угодкаў бітвы на грунвальдскім полі ўдзельнічала і беларуская дэлегацыя. Але гэта, на жаль, напаўпраўда. Вялікую групу адраджэнцаў прывёз прафесар М.Ткачоў. Аднак гэта была самадзейная дэлегацыя. Тым часам, там прысутнічаў В.Ярузэльскі, тагачасны кіраўнік Польшчы, старшыня літоўскага сойма В.Ландсбергіс і нават нейкі дзяржаўны чыноўнік з Масквы. Нашаму ВС на чале з Дземенцеем гэта было нецікава.

Палатно Я.Матэйкі было дастаўлена ў Вільню праз польска-літоўскую мяжу ў аўтафургоне, дадзеныя якога былі засакрэчаны. Яго суправаджалі некалькі машынаў з аховай, якія таксама не мелі спецыяльных апазнавальных знакаў, каб не прыцягваць увагі. Каб унесці кантэйнер з карцінай, які важыў адну тону, у камяніцу колішняга вялікакняскага арсенала, давялося праламіць сцяну. Дваццаць чалавек спатрэбілася, каб унесці і павесіць вялізнае палатно на спецыяльным паўдужным падрамніку.

Існуе, зрэшты, і беларускі «Грунвальд». Па замове гродзенцаў карціну памерам два на чатыры метры намаляваў мастак Г.Вашчанка. Раней карціна выстаўлялася, а цяпер вісіць у службовым памяшканні Музея гісторыі рэлігіі, паколькі асноўная экспазіцыя яго ўжо больш за год як зачынена. ■

ДЫСПУТ

# Чароўная асалода схаластыкі

Канстанцін СУРЫН

**Мінулым годам улады на чале з прэзідэнтам пачалі выказваць нечаканы клопат пра выпрацоўку нацыянальнай ідэі, якая б гуртавала «народы Беларусі» і асвятляла шлях краіны ў 3-е тысячагоддзе. Пасля непрацяглай кампаніі сфармуляваная ідэя, якой цяпер надаюць статус агульнаўхваленай, набыла форму простага для ўжывання трыплекса «Усходнія славяне! Праваслаўе! Саюзная прастора!» Відавочна, што ўрадавая «нацыянальная ідэя» адлюстроўвае стратэгічныя планы маскоўскага заказчыка.**

Паколькі яшчэ не нарадзіўся беларус, здольны не патрапіць у пастаўленую чыноўнікамі пастку, дык наша антыпрэзідэнцкая апазіцыя адчула неабходнасць контрпрапагандысцкай творчасці. У выніку развагаў і акцыяў (прыкладам, прыём у грамадзянства БНР па подпісках аб шанаванні ідэалаў 1918 года) на свет з'явіліся антыподныя фармулёўкі пра нацыянальныя каштоўнасці. Найбольш уражваюць накірункі вышуку намесніка старшыні БНФ Юр'я Хадыкі. Шаноўны прафесар, прааналізаваўшы расійскую нацыянальную ідэю (Самаўладдзе. Праваслаўе. Народнасць), вынайшаў такі ж адпаведнік для Польшчы (Рэспубліка. Каталіцызм. Годнасць) і вывеў формулу, прыдатную, на яго думку, для асэнсавання сваёй нацыянальнай ідэі беларусамі. Пералік неабходных кампанентаў звёўся да любімай «тройцы», якая выглядае так: «Талерантнасць. Дэмакратыя. Талака». Зразумела, што гэткі ёмісты па зместу і сціслы па форме трыплекс патрабуе талмуда каментароў па гісторыі, канфесійным жыцці, фальклорных адметнасцях беларусаў, які не кожны чалавек здолее засвоіць. Аднак горш, што фармулёўка не надта добра стасуецца з рэчаіснасцю, яна, можна сказаць, далёкая ад яе, як адарванымі ад жыцця былі спробы схаластаў вызначыць прыроду і матэрыю анёлаў ці памеры чорта.

Няпроста ўявіць звычайнага беларуса, які будзе ўсур'ёз разважаць над генезісам і сучасным станам Талерантнасці і Талакі ў нашай краіне. Тым больш, што для беларускай народнай свядомасці вобраз талакі злучаны з бясплатнай дапамогай сваяку ці сябру, які потым мусіць пачаставаць кампанію гарэлкай. Убачыць талаку ў партызанскіх аддзелах, партыях або сходках аднадумцаў можа толькі напрактыкаваны ў схаластычных абагульненнях тэарэтык. Нацыянальнай ідэяй, калі Беларусь не мела дзяржаўнасці, была ідэя адраджэння дзяржаўнасці. Яна здзейснілася, беларуская дзяржава існуе. Іншая справа, што з дэмакратычнага гледзішча ўлада ў краіне аўтарытарная, што яна цягне дзяржаву ў небяспечны для незалежнасці Беларусі «славянскі саюз». Але ўтварыцца такі «саюз» ці не, знікне Беларусь ці застанецца сярод самастойных дзяржаваў — залежыць ад розуму і жаданняў бальшыні нацыі. А нацыя сёння жыве ідэямі павелічэння заробку, патрэбы ў эканамічных рэформах.

Рэформы эканомікі як асновы дабрабыту сям'і, грамадства і дзяржавы былі зместам нацыянальнай ідэі ў Польшчы падчас шокавай тэрапіі і ўвасаблення «праграмы Бальцэровіча». Калі эканамічныя ідэі аваладваюць масамі, тады і адбываюцца змены. Паколькі бальшыня беларускай нацыі сёння разлічвае на эканамічную стабільнасць савецкага ўзору, на дзяржаўную гарантыю беднасці, дык і шануе звычны трыплекс: «Сацыяльная роўнасць. Зямля сялянам. Фабрыкі рабочым». Уласна кажучы, усе сакраментальныя трыплексы («Пекла. Чысцец. Рай», «Братэрства. Роўнасць. Свабода», «Розум. Гонар. Сумленне эпохі» і да т. п.) прызначаны для пачатковага абуджэння энтузіязму даверлівай большасці, які з цягам часу пераходзіць у непазбежнае расчараванне ў разбураных ілюзіях. Ну якое значэнне можа мець канфесійная Талерантнасць для свецкай дзяржавы? Ці нашто асэнсоўваць карысць калектыўных намаганняў пад назвай Талакі, калі працоўныя павінны карыстацца запісанымі ў Канстытуцыі правамі на свабодную дзейнасць незалежных прафсаюзаў?

Народ мае дзяржаву і ўсе адпаведныя інстытуты, павінныя забяспечваць яму працу для самавыяўлення, заробку, больш-менш заможнага жыцця. Інстытуты не працуюць на народ, бо народ не мае волі прымусіць іх да працы на дзяржаву замест працы на валадарную групоўку. Толькі тады, калі людзі адчуюць адказнасць за свой голас, які адзін раз у пяць гадоў набывае вырашальную сілу, знікне наша так званая Талерантнасць у адносінах да благой улады. Розум прысутнічае ці адсутнічае ў кожнай асобнай галаве. Не будзе розуму і волі — ніякая Дэмакратыя і Талака не ўратуюць ад ранейшых памылак і ранейшага ладу жыцця. Мільёны неразумных адзінак, якія збяруцца на Талаку, зробяць калектыўную неразумнасць, што засведчана рэферэндумамі 1995 і 1996 гадоў, ці парламенцкай талакой 1994 года якая навязала народу прэзідэнцкае кіраванне. ■



**Збигнев Бжезинский — авторитетный американский ученый и политический деятель. В 80-е годы он выступал с резкой критикой СССР, развязавшего войну в Афганистане, ему принадлежит определение СССР как «империи зла», а также сбывшееся пророчество, что афганская война станет для этой «империи» роковой. Публикуемые редакцией разделы из книги «Большая шахматная игра» посвящены проблемам российской геополитики в отношении стран «ближнего зарубежья», в том числе и Беларуси.**

**Збигнев БЖЕЗИНСКИЙ**

# Черная дыра

*(Продолжение. Начало в № 37-39)*

Такой кондоминиум должен был охватить весь мир. Россия тогда стала бы не только правовым преемником бывшего Советского Союза, но де-факто — партнером в этом мировом союзе, опирающемся на подлинное равенство. Как постоянно подчеркивали российские руководители, это означало, что остальная часть мира должна была признать Россию равным партнером Америки, и ни одна международная проблема не могла решаться без ее участия и согласия. С этим связывалась, хотя и никогда не произносилась вслух, также предпосылка, что Центральная Европа останется, даже, быть может, по собственной воле, регионом, политически тесно связанным с Россией. В таком случае распад Варшавского договора и Совета экономической взаимопомощи не вызвали бы столь сильного тяготения его бывших членов к NATO и Европейскому союзу.

В то же время экономическая помощь Запада должна была способствовать проведению в России внутренних реформ: ослабить государственное вмешательство в экономику и укрепить демократические институты. Восстановление экономики России, ее особенный статус равного партнера Америки, а также просто привлекательность России привели бы молодые независимые государства, входящие в состав СНГ и благодарные России за то, что она им больше не угрожает, а также осознающие пользу союза с Россией, к более тесной экономической, а позже и политической интеграции, что увеличило бы географическую территорию и мощь России.

Большая часть российских демократов опасалась, что расширение NATO станет причиной нахождения России вне Европы, обречет ее на политический остракизм, ее признают негодной для членства в организованных структурах европейской цивилизации. Политические опасения усугублялись также ощущением своей культурной слабости, а экспансия NATO стала казаться кульминационным пунктом политики Запада, предполагающей изоляцию России, ее обречение на одиночество и создание благоприятной почвы для угрозы со стороны многочисленных ее врагов. Кроме всего этого, российские демократы были просто не в состоянии понять антипатию Центральной Европы к России, вызванную полувековым господством Москвы, а также ее стремление войти в широкую евро-атлантическую систему.

Российские демократы, атакованные политическими противниками, не решились на смелое заявление, что демократическая Россия не противится расширению демократической атлантической системы и что сама хочет с ней связаться. Иллюзорность всемирного партнерства с Америкой помешала политической элите Москвы отказаться от претензий на привилегированное политическое положение России не только на территории бывшего Советского Союза, но и на территории бывших государств-сателлитов Центральной Европы.

В этой ситуации выиграли националисты, которые в 1994 году стали опять поднимать голову, а также милитаристы, которые в тот период поддерживали внутреннюю политику Ельцина и были его главными сторонниками. Их враждебная реакция в ответ на стремления стран Центральной Европы только усилила желания последних, которые хорошо помнили, что совсем недавно освободились из-под российского гнета, найти безопасное укрытие в структурах NATO.

Пропасть между Вашингтоном и Москвой увеличилась еще больше после того, как Кремль не пожелал отказаться от территорий, захваченных Сталиным. Западное общественное мнение, особенно в скандинавских странах, было взбудоражено двусмысленным отношением России к прибалтийским республикам. Даже руководители российских демократов, которые хоть и признавали суверенитет прибалтийских государств и не настаивали на их вступлении в СНГ, время от времени не могли удержаться от угроз, целью которых было получение специальных льгот для русских жителей этих стран, целенаправленно расселенных там в сталинскую эпоху. Ситуация усугубилась, когда Кремль решительно отказался осудить советско-нацистское соглашение 1939 года, которое положило начало присоединению этих республик к Советскому Союзу.

Постсоветская российская элита явно ожидала, что Запад поможет вернуть ей роль лидера на территориях бывшего Советского Союза, по крайней мере, не станет этому мешать. Поэтому так неохотно была воспринята помощь Запада молодым независимым государствам в укреплении их независимости. Даже предостерегая, что «политика конфронтации с Соединенными Штатами Америки... является явлением, которого следует избегать», российские исследователи внешней американской политики утверждали (впрочем, не без основания), что США стремятся «реорганизовать межгосударственные отношения во всей Евразии... чтобы не допустить существования на континенте единой достаточно сильной державы, а поддержать существование многих относительно стабильных государств средних размеров... умеренно сильных, но более слабых, чем США, по своему даже вместе взятому потенциалу».

В этом плане решающую роль сыграла Украина. Когда США, особенно в 1994 году, начали уделять много внимания двусторонним отношениям с Украиной и помогать закреплению недавно полученной ею свободы, многие московские политики, в том числе с прозападной ориентацией, признали политику США бьющей по жизненно важным интересам России, которая в перспективе надеялась на восстановление своего лидерства в этой стране. То, что Украина будет «интегрирована» хоть каким-либо образом, было непоколебимой уверенностью многих членов правящей российской элиты. В результате неприятие Россией геополитического и исторического своеобразия Украины начало противоречить американскому мнению об отсутствии у России имперских амбиций.

Политическая слабость новой демократической элиты усугублялась размерами экономического кризиса в России. Необходимость коренных реформ — отделение государства от экономики — вызвала с ее стороны претензиозные ожидания помощи от Запада и особенно Америки. Хотя эта помощь, предоставляемая преимущественно Германией и США, постепенно набрала большие обороты, но даже в самых благоприятных условиях не смогла помочь быстрому экономическому возрождению. Общественное недовольство, к которому в конечном итоге пришли, явилось питательной средой для острой критики со стороны разочаровавшихся, утверждающих, что партнерские отношения с США — это обман, выгодный только для Америки и вредный для России.

Не следует удивляться, что в данной ситуации концепция «ближнего зарубежья» стала одновременно основой для общей критики прозападных взглядов и отправной точкой для создания альтернативных приоритетов внешней политики. Эта критика опиралась на аргумент, что концепция «партнерства» не учитывает того, что для России является самым важным, а именно ее отношения с бывшими советскими республиками. Лозунг «ближнее зарубежье» стал символом политики, направленной на заполнение геополитического пространства, занимаемого когда-то Советским Союзом, некоей новой открытой организационной структурой, в которой Москва играла бы роль решающего центра. Исходя из данных предпосылок, правящая российская элита почти единодушно признала, что политика обращения взоров на Запад приносит малую пользу и дается слишком большой ценой, облегчая Западу использовать появившийся в результате распада Советского Союза шанс. ■

*(Продолжение следует)*

# Юбілей кардынала

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

**Кіраўнік каталіцкага Касцёла ў Беларусі кардынал Казімір Свёнтак гэтымі днямі адзначаў юбілей — 60 гадоў свайго святарства. З гэтай нагоды ў Пінску і Мінску кардынал адслужыў урачыстыя богаслужэнні, падчас якіх вернікі віншавалі яго з юбілеем.**



Здаецца, гэты чалавек увабраў у сябе ўсе адметныя рысы бурлівага і супярэчлівага XX стагоддзя. Будучы кардынал і мітрапаліт нарадзіўся 21 кастрычніка 1914 года ў эстонскім мястэчку Валга ў польскай шляхецкай сям'і. Ранняе дзяцінства Казімір Свёнтак правёў у Сібіры, куды ягоную сям'ю эвакуіравалі з Эстоніі тагачасныя расійскія ўлады. У Заходнюю Беларусь ён з маці і братам пераехаў толькі ў 1922 годзе, пасля заключэння Рыжскага міру паміж палякамі і бальшавікамі. Годам раней у баях за Вільню загінуў бацька будучага кардынала. Сям'я Свёнтакаў пасялілася ў Баранавічах, дзе Казімір закончыў гімназію і пасля атрымання атэстата сталасці меў намер працягваць вучобу на філалагічным факультэце Віленскага ўніверсітэта Стэфана Баторыя. Па словах самога кардынала, ён, хоць і быў выхаваны ў традыцыях польскага каталіцкага патрыятызму, аднак аб святарскім сане не марыў. Яго больш вабіла навуковая кар'ера.

Планам Казіміра Свёнтака стаць навукоўцам-філолагам перашкодзіў выпадак. Пасля заканчэння гімназіі Казімір разам з групай сяброў паехаў у Пінск, дзе мясцовыя ксяндзы арганізавалі для моладзі летні лагер. У гэтым горадзе нядаўна памёр біскуп Зыгмунт Лазінскі — асоба ў беларускім каталіцкім руху на пачатку стагоддзя вельмі вядомая. У 1918 годзе ў часы БНР Лазінскі кіраваў мінскай епархіяй, вельмі актыўна спрыяў беларусізацыі касцёла і нават быў у прыяцельскіх адносінах з Янкам Купалам. Асоба памерлага біскупа зрабіла моцнае ўражанне на маладога Казіміра Свёнтака. Пазней ён гаварыў, што стаяў каля магілы Зыгмунта Лазінскага і раптам адчуў, што абавязкова стане святаром. Пасля гэтага, так бы мовіць, прасвятлення Свёнтак прыняў рашэнне застацца ў Пінскай духоўнай семінарыі.

Пасля шасці гадоў вучобы, у красавіку 1939 года 25-гадовы Казімір Свёнтак атрымаў святарскі сан. Але працаваў малады ксёндз у сваёй першай парафіі ў Пружанах нядоўга. У кастрычніку 1939 года ён ужо быў арыштаваны НКВД і замест касцёльнай амбоны заняў месца ў камеры смяротнікаў Брэсцкага СІЗО. Казімір Свёнтак абвінавачваўся ў падрыўной і шпіёнскай дзейнасці супраць савецкай улады. Аднак 22 чэрвеня 1941 года да яго прыйшло нечаканае вызваленне — нямецкія войскі занялі Брэст. Свёнтак зноў вярнуўся ў Пружаны, але ў сваім доме застаў гестапаўцаў. Ён патлумачыў фашыстам, за што сядзеў у турме, і тыя далі яму дазвол служыць у касцёле. Потым гэты эпізод у матэрыялах справы Свёнтака, заведзенай савецкай контрразведкай, будзе фігураваць як «здрада радзіме» і «супрацоўніцтва з ворагам». Па некаторых звестках, падчас Другой сусветнай вайны кс.Казімір Свёнтак падтрымліваў даволі шчыльныя сувязі з партызанскімі атрадамі польскай Арміі Краёвай.

У 1944 годзе перад наступам Чырвонай Арміі Казіміру Свёнтаку прапанавалі выехаць на Захад, але ён чамусьці адмовіўся — быццам бы не мог пакінуць адных сваіх парафіянаў. Расплата была даволі жорсткая. Праз некалькі месяцаў вязень мінскай «амерыканкі» Казімір Свёнтак атрымаў 10 гадоў ГУЛАГа «за антысавецкую дзейнасць». Свой тэрмін ён адбыў ад пачатку і да канца ў лагерах Крайняй Поўначы. З ГУЛАГа кс.Казімір Свёнтак вызваліўся толькі ў 1954 г., пасля смерці Сталіна. Прычым кардынал і да гэтага часу застаецца нерэабілітаваны і ва ўсіх анкетах пазначае, што быў судзімы. Па ягоных словах, улады не могуць вярнуць яму дзесяць змарнаваных гадоў, таму, маўляў, не трэба і ніякай рэабілітацыі. Тыя змарнаваныя гады і сапраўды шмат чаму яго навучылі.

Пасля выхаду на волю Казімір Свёнтак вярнуўся ў Пінск, дзе яму з вялікімі цяжкасцямі ўдалося атрымаць ад уладаў дазвол на душпастырскую дзейнасць. Як ні дзіўна, але ён і на гэты раз не пакінуў Беларусь, хоць і разумеў, што бальшавікі ў гэтай краіне прыйшлі надоўга, а тая Польшча, пры якой ён вырас і выхаваўся, сюды не вернецца ніколі. Беларусі ж як дзяржавы для яго тады наогул не існавала. Была толькі фармальная БССР як частка вялікага і варожага хрысціянству камуністычнага Савецкага Саюза. Казімір Свёнтак заняўся чыста рэлігійнай дзейнасцю, а таксама рэстаўрацыяй пінскага катэдральнага сабора, і ў палітыку не лез. Ягонай галоўнай задачай стала апека над вернікамі сваёй парафіі, а таксама над каталікамі з іншых рэгіёнаў Беларусі, дзе каталіцкіх святароў не было.

За дзесяткі гадоў працы ў напаўпадпольных умовах у Казіміра Свёнтака выпрацаваліся пэўныя звычкі, якім ён застаецца верным нават да гэтага часу. Напрыклад, ён вельмі недаверліва ставіцца да любой улады і заўсёды трымаецца ад яе далей. Таму нават стаўшы на пачатку 90-х гадоў спачатку арцыбіскупам, а потым і кардыналам (акрамя Беларусі, каталіцкія кардыналы ў краінах былога СССР ёсць толькі ў Літве і на Украіне), Казімір Свёнтак не пераехаў жыць у сталіцу, а так і застаўся ў Пінску, далей ад мінскіх уладаў. І ў часы дэмакрата Шушкевіча, і ў часы аўтарытарнага Лукашэнкі кардынала, падобна, не пакідае ўражанне, што гэтая ўлада можа нейкім чынам перашкодзіць Касцёлу. Магчыма, гэта выпрацаваны гадамі жыцця ў камуністычнай краіне комплекс страху, а магчыма, мудрасць сталага чалавека.

Казімір Свёнтак не жадае ні на кроплю ўмешвацца ў грамадскае, а тым больш у палітычнае жыццё краіны, асабліва пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі. Ён фактычна забараніў усім сваім падначаленым святарам даваць хоць нейкія каментары сродкам масавай інфармацыі, якія б не тычыліся рэлігіі, і сам не жадае сустракацца з журналістамі. Зрэшты, кардынала можна і зразумець. Улады пастаянна пагражаюць выслаць з краіны больш за 150 польскіх ксяндзоў, якія складаюць 2/3 усяго каталіцкага кліру Беларусі. Таму Казімір Свёнтак строга забараніў духавенству канфліктаваць з уладай. Дарэчы, многія прадстаўнікі апазіцыі і нацыянальнай інтэлігенцыі былі моцна расчараваныя, што каталіцкі касцёл не збіраецца адыгрываць той ролі ў барацьбе за дэмакратыю, якую ён адыграў у Польшчы ці грэка-каталіцкая царква ў Заходняй Украіне. Аднак кардынал Свёнтак іхніх спадзяванняў не апраўдаў. Ён свядома заняў ізаляцыяністскую пазіцыю адносна апазіцыі і ўлады.

Тым часам, некаторыя патрабаванні беларускіх нацыянал-дэмакратаў канца 80-х — пачатку 90-х гадоў кшталту беларусізацыі касцёльнага жыцця кардынал выканаў. Беларуская мова трывала ўвайшла ў набажэнствы многіх парафіяў, асабліва на ўсходзе Беларусі. Літаральна за некалькі гадоў прайшла рэстаўрацыя мінскага і магілёўскага кафедральных сабораў і іншых храмаў. Амаль цалкам па-беларуску выдаюцца некалькі каталіцкіх газетаў і часопісаў. Аднак, нягледзячы на гэтыя новаўвядзенні, кардынал Свёнтак прытрымліваецца даволі кансерватыўных поглядаў на сучаснае развіццё царквы і дзяржавы.

Па словах некаторых святароў, часам кардынала нават цяжка пераканаць у выкарыстанні новых тэхналогіяў, напрыклад, Інтэрнэта, якія маглі б значна паспрыяць пашырэнню каталіцызму ў Беларусі. Зрэшты, нельга падыходзіць да гэтага чалавека з нашымі меркамі і поглядамі на сучаснае жыццё. У такім шаноўным узросце звычайна прынцыпаў не мяняюць. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: edit@svaboda.minsk.by; naviny@hotmail.com Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 533 Нумар падпісаны ў друк 12/04/99 (15:00) Наклад — 17.040